Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 75 (125). Вільня, Субота 16 Кастрычніка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.)
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Школьная справа.

Паводле газэтных вестак, у сёлетнім школьным годзе на ўсю Заходнюю Беларусь маюць быць адчынены 19 беларускіх школ і каля 30 мешаных. Гэтыя весткі былі прыняты з вялікім захопленьнем урадавымі часопісамі, мы таксама ня можам абмінуць гэтага факту выказаць свой пагляд.

Бязумоўна, вядучы ўвесь час змаганьне за школу ў роднай мове, кожную здабычу на гэтым полі, мы павінны толькі прывітаць. Але зьяўляецца сумліўным, ці для беларускае асьветы фактычна ўзьнікла якая-небудзь, хоць мінімальная здабыча?! Каб разабрацца ў гэтым пытаньні, трэба больш крытычна глянуць на справу, і ўясьніць сабе, ці польскі ўрад выракся палянізацыйнага пляну беларускіх зямель, ці і далей трымаецца яго. Калі-б урад выракся сыстэмы палянізацыі беларускіх дзяцей і шчыра пайшоў на рэалізацыю прынцыпу, што пачаткавая навука ў школе павінна ісьці ў матчынай мове, дык пры такіх варунках заложэньне кожнай беларускай школы бязумоўна можна было-б прывітаць. Калі-ж прымем адваротнае дапушчэньне, што ўрад і далей трымаецца сыстэмы палянізацыі, дык на'т і заложаныя ім некалькі дзесяткаў беларускіх школ, ня будуць спаўняць сваіх задач з беларускага пункту гледжаньня, але будуць тымі самымі рассаднікамі польскае культуры, якімі зьяўляюцца польскія школы, бо іначай такія школы не спаўнялі-б волі ўрадавае палітыкі. З гэтых двух дапушчэньняў найбольш магчымым зьяўляецца гэтае апошняе, што польскі ўрад і далей трымаецца палянізацыйнае палітыкі адносна бэларускіх зямель. Гэтае цьверджэньне снуецца на наступных вывадах. Трэба ведаць, што хоць юрыдычна польскія ўлады закладаюць 19 беларускіх школ, дык гэта яшчэ ня азначае, што гэтыя школы фактычна будуць беларускімі. Наадварот дадзеныя гавораць, што ў гэтых школах будзе вельмі мала беларускага, бо вучыцялі ў беларускіх школах астаюцца тыя самыя польскія вучыцялі, што дагэтуль вучылі ў польскіх школах і зусім ня знаюць беларускае мовы. Ці-ж можна сабе прадставіць, каб Паляк-вучыцель, не знаючы беларускае мовы, вучыў беларускіх дзяцей пабеларуску?! Скарэй дзеці маглі-б яго вучыць пабеларуску, чымся ён сам можа іх вучыць. Дык ці-ж пры такіх абставінах тая крыха беларускіх школ, якую школьныя ўлады падаюць да ведама беларускага грамадзянства, можа быць названа беларускімі школамі?! Не! Хто-ж у гэтым вінен. Ці—Беларусы, што, быццам, ня маюць вучыцялёў, ці польскія школьныя ўлады? Калі-б у адзін школьны год закладалася якіх 500 беларускіх школ, дык на такую лічбу можа і трудна было-б знайсьці беларускіх „кваліфікаваных“ вучыцялёў. Але-ж у нашым выпадку патрэбна не 500, але толькі 19 вучыцялёў. Такі лік вучыцялёў знойдзецца ня толькі з кадраў беззработных беларускіх вучыцялёў, але і сярод вучыцялёў у польскіх школах, Беларусаў па нацыянальнасьці. Але гэтыя вучыцялі асталіся ў польскіх школах і найчасьцей нейдзе ў Пазнаньшчыне або на Паморы, а ў беларускія нова-адчыненыя школы іх не назначылі. Гэты факт гавора толькі аб адным, што польскія ўлады зусім не адчыняюць на'т і праклямаваных 19 беларускіх школ, што гэта будуць фактычна тымі самымі школамі, якімі палянізуецца беларуская моладзь. Для большага абасаваньня гэтага вываду прыточым тут яшчэ адзін вельмі характэрны факт.

Пасьля ліквідацыі ў свайм часе каля 400 беларускіх школ, асталася толькі адна беларуская пачаткавая школа ў Вільні. І вось, у сёлетнім школьным годзе, тыя самыя школьныя ўлады, якія, быццам, закладаюць 19 новых беларускіх школ, прыслалі вусны загад перайсьці ўва ўсіх клясах у адзінай дагэтуль беларускай школе ў Вільні на выкладаньне ў польскай мове, а беларускую мову пакінуць толькі як прадмет.

Вышэй паданых фактаў зусім даволі, каб пераканацца, што польскі ўрад не дае нам беларускіх школ, што ўпарта трымаецца палянізацыйнае палітыкі мін. Грабскага. Калі-ж наступіла пэўная зьмена, дык ня ў мэрытум (зьмесьце) самой школьнай справы, а толькі ў форме. Калі палітыка Грабскага выразна казала, што яна не прызнае ніякіх школ апрача польскіх, дык палітыка ўраду м. Пілсудскага робіць тое самае, але пад скрытай формай. Афіцыяльна быццам адчыняецца беларуская школа па культуры і па кірунку выхаваньня. Вось, з такой скрытай палянізацыяй будзем весьці змаганьне, як вядзём яго з адкрытай палянізацыяй беларускіх зямель. За намі, безумоўна, будзе перамога, і чым бардзей польскі ўрад здасца, выракаючыся палянізацыйнага пляну, тым меншы будзе яго правал у палітыцы адносна пытаньня аб нацыянальных меншасьцях.

**А. Культурнік.**

## Польска-савецкія адносіны.

Новы савецкі пасол у Варшаве пан Багамолаў у апартамэнтах савецкага пасольста наладзіў прыём карэспандэнтаў польскіх газэтаў, якім выказаў свае пагляды на справу польска-савецкіх адносінаў.

Перадусім п. Багамолаў адзначыў, што ён зьяўляецца вельмі шчасьлівым, бо выпала на яго долю быць прадстаўніком „пралетарскае“ айчыны ў Польшчы і кіраваць працаю, якая мае на мэце ўстанавіць **прыяцельскія адносіны паміж абедзьвімі дзяржавамі.**

Далей п. Багамолаў п. ін. запэўніў, што савецкі ўрад ніколі ня меў захопніцкіх намераў. Уся палітыка савецкага ўраду адносна Польшчы была заўсёды міралюбіваю.

Справа гваранцыйнага дагавору паміж Польшчаю і Саветамі бязумоўна закончыцца памысна, бо гваранцыя ёсьць аднолькава патрэбна, як Польшчы так і Саветам.

„Спадзяюся, — закончыў п. Багамолаў,— што польскае грамадзянства будзе мне ў маей працы абдараць падтрыманьнем і што гэтым шляхам хутка дойдзе да памыснага рэзультату ў галіне пашырэньне і ўмацаваньня ўзаемных адносінаў паміж нашымі краямі.“

Пасьля сваей „справаздачы“ п. Багамолаў адказаў на цэлы рад запытаньняў з якія, польскія газэты лічаць, запраўды заслугоўваючым на ўвагу наступны: гандлёвы дагавор мае быць падпісаны пасьля таго, як будзе асягнута гваранцыйнае паразуменьне.“

## Польска-літоўскія справы.

Як ведама, польскія газэты паднялі „алярм“ аб уціску польскага школьніцтва ў Літве. У сувязі з гэтым, як быццам адказ на літоўскі тэрор адносна палякаў у Літве, польскія ўлады на Віленшчыне арыштавалі літоўскіх ксяндзоў і грамадзкіх дзеячаў і зачынілі літоўскія школы.

Замежныя газэты, зьмяшчаючы весткі аб польска-літоўскіх справах, пішуць, што справа з польскім школьніцтвам у Літве, прадстаўляецца гэтак:

Пачынаючы з 1922 года ў Літве ва вучыцельскія пасады зацьверджаліся асобы, якія ня мелі вучыцельскіх кваліфікацыяў пры ўмове, што за пэўны час, яны патрэбныя кваліфікацыі здабудуць. У 1926 годзе было дазволена 86 Палякам быць вучыцелямі пры ўмове, што да жніўня г. г. яны здабудуць вучыцелскія кваліфікацыі. З іх 68 чалавек кваліфікацыяў не здабылі, а дзела гэтага былі звольнены з пасадаў. Падобныя меры прымяняюцца ня толькі для вучыцялёў Палякаў, але-ж таксама для вучыцялёў Літвіноў, так напр.: у 1926 годзе было звольнена 250 чалавек вучыцялёў Літвіноў, а сёлета 220 чалавек, якія не здабылі ў вызначаным часе вучыцельскія кваліфікацыі“.

Дык вось, знача з-за гэтага і загарэўся сыр-бор.

### Літоўская адозва.

Польскія газэты ў Вільні пішуць, што Часовы Літоўскі Камітэт выдаў адозву да Літвіноў у Польшчы, якою заклікае Літвіноў падаць Камітэту падрабязныя весткі аб адбыўшыхся арыштах сярод Літвіноў на ўсім абшары Віленшчыны.

Адначасна ўрад заклікае літоўскае грамадзянства аб дапамозе грашыма і прадуктамі арыштаваным Літвінам.

На заканчэньне ў адозве выражаецца надзея, што літоўскае грамадзянства ў Польшчы спакойна, але-ж і паважна ацэніць сучасныя сумныя падзеі і падмацуе гэтым сваю нацыянальную сьведамасьць.

Падпісаў адозву д-р Альсэйка, як старшыня Літоўскага Нац. Камітэту ў Вільні.

